# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 2 (620) ГОД XIII 14 СТУДЗЕНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### ШТО ЧАКАЕ Ў 1968 ГОДЗЕ

Традыцыйным звычаем спяшаемся паінфармаваць членаў БГКТ і нашых чытачоў з планам працы Галоўнага праўлення БГКТ на 1968 год.

План мае пяць частак — праблем, якімі ў асноўным займаецца Таварыства. У такім жа парадку пастараемся перадаць іх змест.

**I. Заданні ў галіне арганізацыйных спраў.** У распачаўшымся годзе маюць адбыцца два чарговыя пленумы Галоўнага праўлення і 11 пасяджэнняў Прэзідыума ГП. Правядзецца 14 канферэнцый ў паасобных аддзелах нашага Таварыства. Будуць гэта перад усім справаздача-выбарчыя канферэнцыі, да якіх кіраўніцтва Таварыства прыкладае вялікую ўвагу. Каб палепшыць працу аддзелаў і навучыць адпаведна гаспадарыць у іх, неабходныя «люстрацыі» гэтых жа ўстаноў. Штатныя працаўнікі ГП маюць дзеля гэтага правесці за год 16 гэтага роду «люстрацый». Падставай працы, у далейшым, мае быць цяснейшая сувязь з гурткамі БГКТ. План працы накладае на інструктараў абавязак пабыўкі ў гуртках не менш 10 разоў, на кіраўнікоў аддзелаў ГП — 8—10 разоў, а кіраўніцтва ГП — 4—6 разоў у месяц. Прадбачваецца арганізаванне ад мая да верасня 5 фестынаў.

**II. Заданні ў галіне прапаганды.** Тут прадбачваецца апрацоўка радыёгутарак, супрацоўніцтва з радыёвяшчальнай станцыяй, правядзенне 300 гутарак аб беларускай праблематыцы. ГП арганізуе таксама 200 лекцый, якія будуць чытаць спецыялісты розных галін гаспадаркі і культуры. Вельмі ўрачыста будуць адзначацца 50-ая гадавіна Савецкай Арміі, 50-ая гадавіна КПП/КПЗБ, 25-ая гадавіна Войска Польскага і 20-ая гадавіна аб'яднання польскага рабочага руху і ўзнікненне ПАРП. Галоўнае праўленне прадбачвае высветліць 120 фільмаў.

**III. Заданні ў галіне асветы** прадбачваюць многія пункты, якія ўжо былі рэалізаваны ў мінулых гадах. Але па колькі гэта справы надта істотныя, стаўляюцца яны ў плане на 1968 год. ГП далей будзе намагацца, каб адкрыць завочнае аддзяленне бел. філалогіі пры Варшаўскім універсітэце. Вялікая ўвага будзе прыкладацца да супрацоўніцтва з асветнымі уладамі ў галіне аўтарскіх сустрэч, распаўсюджванню выдавецтваў ГП, выступленняў аматарскіх калектываў і т.п. Супольна з інспектаратамі асветы і прафсаюзнымі арганізацыямі настаўнікаў будзе арганізавана 2 нарады з настаўнікамі. У наступным навучальным годзе, пры дапамозе БГКТ, мае быць арганізаваных не менш 15 курсаў асветы дарослых, у праграмах працы якіх знойдзецца беларуская тэматыка. Беларускае Таварыства будзе арганізатарам 6 конкурсаў. На май плануецца арганізаваць павятовыя агляды аматарскіх калектываў, а ў чэрвені — цэнтральны агляд.

**IV. У галіне аматарскага руху** плануецца перад усім наведанне раз на квартал аматарскіх калектываў. Хоры аддзелаў БГКТ маюць даць 30 канцэртаў, а «Лявоніха» выступіць з новай праграмай 242 разы.

**V. Выдавецкія заданні** вырашана астаткова наступна: выдаць «Беларускі каляндар на 1969 г.», зборнік паэзіі А. Барскага, спеўнік для дзяцей Э. Гойліка, лекцыі да навучання роднай гісторыі. Падрыхтаваць да друку вершы Я. Чыквіна, аповесць С. Яновіча і навуковы зборнік.

Заданні шырокія, а рэалізацыя іх у многім будзе залежаць і ад Цябе, дарагі чытач.

(А. К.)



Від на забудаванні з брамы супрасльскага манастыра. Аб гісторыі манастыра на старонцы 3.

## РАБОЧАЕ ПАДСУМАВАННЕ КОНКУРСУ

Яшчэ раз вернемся да конкурсу «Беларуская кніжка ў руках масавага чытача», які год таму быў аб'яўлены і працягваўся год часу. Наогул хваляць гэты конкурс, бо і вынікі самі да пахвалы заахвочваюць. Конкурсы рознага пра розн ага роду сталіся так моднымі, што аж нуднымі. Кожная ўстанова, арганізацыя сваім святым абавязкам лічыць арганізаваць час ад часу конкурс. У гэтай навале конкурсаў конкурсы чытальніцкія, арганізаваныя




рэдакцыямі розных газет супольна зрэшты з бібліятэкамі, займаюць месца асаблівае.

Адзін з большых знаўцаў праблемы чытальніцтва дырэктар публічнай бібліятэкі ў Кракаве пісаў некалі, што конкурсы ў ніякай меры не толькі чытальніцтва не развіваюць, але і не даюць вобразу яго. Увогуле аб конкурсах чытальніцкіх не найлепш у краіне думаюць спецыялісты. Але нягледзячы на тое, такія конкурсы здабылі сабе трывалае месца ў жыцці.

**Рэдакцыя «Нівы», арганізуючы падобны конкурс з Ваяводскай бібліятэкай у Беластоку, Галоўным праўленнем БГКТ і іншымі, таксама шукала адказу на пытанне: на колькі і перад усім якая беларуская кніжка чытаецца людзьмі.** Было ў нас няяснае ўяўленне аб тым, што пэўныя кніжкі, прабачце, што многа беларускіх кніжак, на бібліятэчных паліцах ніколі не кране рука чытача. Некаторыя з іх, як зборнікі паэзіі, асабліва забытых, або яшчэ невядомых аўтараў, або кніжкі на грамадскую тэматыку, ніколі не здабудуць масавага чытача, хоць бы таму, што зборнікі вершаў масавага чытача занудзваюць. Такая ўжо яна паэзія, не спажывеш яе замнога. **Але ведалі мы, што некаторыя добрыя кніжкі ляжаць някранутымі масавым чытачом: Кузьма Чорны, Эдуард Самуйлёнак, Змітрок Бядуля (не лічачы яго «Салаўя»). Чаму? Мы адчувалі (але хацелі знайсці пацвярджэнне), што не ў парадку тут выдавецтвы, якія выдалі зборы твораў у аднолькавых шэрых вокладках, без ніводнай ілюстрацыі і г.д. Гэтыя акадэмічныя выданні масавага чытача не толькі не прыцягваюць, але адстрашаюць.** Даволі глянуць на 6 тамоў Кузьмы Чорнага, каб сцвердзіць: завялікая для мяне, дайце (да бібліятэкаркі) нешта меншае.

**У выніку нашага конкурсу наступіла вялікае адкрыццё вялікіх людзей беларускай літаратуры перад усім сярод моладзі. Тут прыклад таго ж самага Кузьмы Чорнага. Калі яго творы ў многіх справаздачах бібліятэк кваліфікаваліся дагэтуль як не меўшыя ніводнага пазычання, то ў нашым конкурсе Кузьма Чорны знайшоўся ў першай пяцёрцы самых папулярных аўтараў. Яго «Зямля», «Трэцяе пакаленне» справядліва ацанілі чытачы, як творы сусветнай вартасці. Змітрок Бядуля вядомы па «Салаўю» стаў перад намі са сваімі «Дрымучымі лясамі», «Язэпам Крушынскім» і ў конкурсе заняў трэцяе месца ў папулярнасці.**

Супольныя намаганні, а перад усім вялікая добрая воля бібліятэкараў павятовых, грамадскіх і кіраўнікоў бібліятэчных пунктаў, іх вялікае заангажаванне пацвердзілі і ў гэтым выпадку, што няма нічога немажлівага таксама ў развіцці беларускага чытальніцтва ў Польшчы. Гэта аграмадная перамога конкурсу, конкурсу, які і па ліку ўдзельнікаў быў імпануючым. Для до-

(Працяг на стар. 5)




## ЖАДАННІ

Знайсці б які пакойчык кутні
і там, забіўшыся ў куток,
аддацца радасці пакутнай:
пісаць — радок! яшчэ радок!

Забрацца б на пустынны востраў,
за трыдзевяць зямель і вёрстаў,
узяўшы толькі стосік кніг.
І — начытацца ўволю іх!

Разуцца б і пайсці сцяжынай —
то травяністай, лугавой,
то гладка ўбітай, палявой,
нагамі ўбітай, не машынай.

Вярнуцца б зноў у маладосць,
цябе сустрэць, яшчэ чужую,
і жыць пачаць без гэтых восьі...
Ты ведаеш, пра што кажу я.

Вось твой лясок.
Вось твой пясок.
Вось тваё сосны.
Твая яма.
Пачуць бы яшчэ раз:
«Сынок!»
Паклікаць бы яшчэ раз:
«Мама!»

**Анатоль Вярцінскі**



## Каралеўства маладых

«Маёнтак **Геранімова»** — завуць у Міхалове старэйшыя, малодшыя, правільна называюць, — «пэгээрам». Асабліва гэты ПГР нічым не адрозніваецца ад іншых у Беластоцкім павеце. Але ёсць пэўныя характэрныя рысы, як напрыклад, тое, што частка рабочых ПГР — гэта сем'і, якія тут працавалі і памятаюць «пана». ПГР-у Геранімова характэрна і тое, што ў мінулым годзе прыняў 600 гектараў зямлі ад дзяржавы і пры мінімальным толькі ўзросце «затруднення» засеяна і сабрана ўсё ў час.

— Выдайнасць, асабліва жанчын, у тутэйшым ПГР велізарная, — гаворыць галоўны бухгалтар гаспадарства. Многа прышлося ўжо бачыць ПГР-аў, але каб самыя жанчыны (8—12 асоб) намалочвалі па 8—12 тон у дзень не сустракаў. А гэта дае вынікі, бо калі ПГР чатыры гады назад меў 1.200.000 зл. страт, дык у мінулым годзе ўжо толькі 310.000 зл., а год 1967 праўдападобна выйдзе на чыста...

Не толькі гэтым характарызуецца Геранімова. Існуе тут даволі **актыўны гурток ЗМВ,** аб працы якога я пачуў будучы на адным з мерапрыемстваў ЗМВ у Беластоку. Словы аб працы ЗМВ у Геранімове былі цудоўныя, захапляючыя, прынамсі мне. І так журналісцкая цікаўнасць завяла мяне на месца, каб пабачыць, што тут робяць маладыя.

Старшыня гуртка ЗМВ **трактарыст Уладзіслаў Аўштэль** на хвіліну перапрашае мяне, таму што мусіць выпрагчы з воза каня, на якім толькі што прывёз пясок. У замен, за хвіліну, уваходзіць двое маладых людзей. Гэта практыканты: Эля — пасля эканамічнага тэхнікума і Ромэк — пасля сельскагаспадарчага тэхнікума ў Дайлідах. «Раскручваем» размову. Мае субяседнікі гавораць, што ў ЗМВ у Геранімове трапілі невыпадкова.

— Першым, хто нас тут сустрэў, — сцвярджае Ромэк, — быў Аўштэль. Ён запрасіў нас да супрацоўніцтва ў гуртку. Я згадзіўся.

— Гаворыце аб нашай прывязанасці да ЗМВ і персанальна да Аўштэля, — уключаецца Эля, — гэта праўда. Але

(Працяг са стар. 4)

 

# З гісторыі Супраслі



**Брама, якою ўваходзілася на тэрыторыю манастыра. На першым плане фундаменты збуранай у час вайны сярэднявяковай царквы.**



**Пабуданавая ў 1511 годзе супрасльская царква стаяла да II сусветнай вайны.**

Заснаванне і гісторыя Супраслі цесна звязана з заснаваннем і гісторыяй супрасльскага манастыра. Варта тады прысвяціць крыху месца гісторыі заснавання гэтага вялікага рэлігійнага і культурнага цэнтра на нашых землях.

Супрасльскі манастыр заснаваны быў Аляксандрам Хадкевічам, які быў маршалам Вялікага княства Літоўскага і навагрудскім ваяводаю. Раней, прыблізна каля 1498 года, рабіліся захады дзеля заснавання манастыра ў Гарадку. У Гарадку была ўжо тады пабудавана Хадкевічам драўляная царква ў гонар Іаана Багаслова, які быў патронам бацькі маршала, Яна Хадкевіча, ваяводы львоўскага.

У той самы больш-менш час Аляксандр Хадкевіч у сувязі з вайною, якую Літоўскае княства вяло з маскоўскім царом Іванам III, пачаў будаваць у Гарадку абаронны замак і абаронную сістэму асады. Умовы інтэнсіўнай ваеннай падрыхтоўкі не спрыялі манахам і яны папрасілі ў Хадкевіча дазволу выбраць больш адпаведнае месца.

Застасавана стары, практыкаваны ў такіх выпадках спосаб: спушчана ў Гарадку на рэчку Супрасль драўляны крыж, у якім знаходзіцца мела частка дрэва з Хрыстовага крыжа. Па беразе ішло двух манахаў і сачыла, дзе затрымаецца крыж. Крыж затрымаўся на маёмасцях Хадкевіча ў Блудаўскай пушчы, у мясцовасці званай «Сухі Груд». Пачалася тут будова манастыра. які ад рэчкі прыняў названне «Супрасльскага».

Манастыр быў пабудаваны і заселены манахамі ў 1500 годзе. Аляксандр Хадкевіч і епіскап Салтан задбалі аб тое, каб канстантынопальскі патрыярх прыслаў для манастыра свое благаслаўленні. Патрыярх пераслаў грамату, у якой знайшліся між іншым указанні для супрасльскіх манахаў. У грамаце між іншым чытаем:

«В монастыре сем братія не должны піть водкі і налівкі ілі другого опяняюшчаго напітка, а кто будет чувствовать жажду, тот пусть употребляет воду і квас, дабы опянев не сделал своего ума рассеяным на дело Божее».

Відаць, манахі любілі ў той час папіваць не толькі воду і квас, калі канстантынопальскі патрыярх лічыў неабходным напомніць ім аб гэтым у сваім урачыстым лісце.

Манастыр надзелены быў вялікімі зямельнымі надзеламі і ў хуткім часе накапіў параўнальна вялікае багацце. У 1503—1511 гадах пабудавана тут царкву — адзін з лепшых архітэктурных помнікаў тых часоў. На жаль, царква гэтая была збурана ў час II сусветнай вайны. Дабытыя з руін астаткі супрасльскага насценнага мастацтва зберагаюцца зараз у музеях Польшчы, як прыклад высокага майстэрства ўсходнеславянскай іканаграфіі. Сабраныя манахамі на працягу цэлых стагоддзяў дакументы, нататкі, апісанні сучасных ім падзей склалі пэўную цэласць вядомую гісторыкам пад названнем «Супрасльскай хронікі». З'яўляецца яна важным дакументам неабходным для высвятлення многіх падзей мінуўшчыны. Пачынаючы ад канца XVII стагоддзя і да пачатку XIX стагоддзя працуе ў Супраслі друкарня, у якой друкуюцца не толькі кніжкі рэлігійнага характару, але працы з розных галін навукі з матэматыкаю ўключна.

Зараз у Супраслі захавалася толькі ўваходная брама ў манастыр, ля якой праязджае крынкаўскі аўтобус, і некаторыя забудаванні, у якіх змяшчаецца Тэхнікум сельскагаспадарчай механізацыі.

**Уладзімір Паўлючук**



**Уцалелыя забудаванні супрасльскага манастыра.**

ЦІ ЗНАЁМЫ ВЫ З БССР?

# СКАРБНІЦЫ „БЕЛАРУСКАГА БАКУ"

Апошнія гады развіцця нафтаздабываючай прамысловасці прывялі да нечаканых адкрыццяў. У 1959 годзе нафту знайшлі ў Сібіры, у 1959—1961 гадах — на паўвостраве Мангышлак, а ў 1964 годзе — на захадзе Беларусі, у Палессі.

Гэта адкрыццё мае вялікае народнагаспадарчае значэнне. Нафта дасць магчымасць палепшыць паліўны баланс Беларусі і суседніх прыбалтыйскіх рэспублік.

Паводле падлікаў вучоных, удзельныя капітальныя ўкладанні на прырост здабычы адной тоны нафты ў гэтым раёне складаюць каля 40 рублёў. Гэта менш, чым у раёнах Каўказа.

У адрозненне ад прамысловых прадпрыемстваў, якія будуюцца ў загадзя выбраным раёне, месцанараджэнні нафты і газу адкрываюцца геолагамі толькі там, дзе прырода «пабудавала» іх яшчэ сотні мільёнаў гадоў назад. Але і тут чалавек можа ўнесці свае карэктывы, сканцэнтроўваючы асноўны аб'ём геолагапошукавых работ у найбольш перспектыўных раёнах.

Глыбокае разведачнае бурэнне на тэрыторыі Беларусі было пачата ў 1945 годзе. Спрыяльныя геалагічныя прадпасылкі і даныя рэгіянальных геафізічных даследаванняў паслужылі асновай для закладання ў 1950 годзе дзвюх апорных шчылін — Даманавіцкай і Мазырскай. Пачынаючы з гэтага часу, штогод бурыцца па некалькі разведачных шчылін. У многіх з іх сустракаліся прыкметы нафты і газу, аднак прамысловых запасаў адкрыць не ўдавалася.

У 1953 годзе на Ельскай плошчы з глыбіні 2.430 метраў з дэвонскіх адкладанняў ударыў фантан з дэбітам нафты 18 тон у суткі і газу — 1.000 кубаметраў у суткі. Залеж, відаць, быў невялікі. Прабураныя пазней 7 шчылін аказаліся «сухімі». Нягледзячы на гэта, прагнозныя запасы нафты ацэньваліся вельмі высока.

У 1963 годзе на Рэчыцкай плошчы ўпершыню быў атрыманы прыток нафты з дэбітам 2 тоны ў суткі. Геолагі, аднак, лічылі, што дэбіт павінен быць большы, бо пры бурэнні гэтай шчыліны ў нафтаносны пласт трапіла гліна. Вырашылі выкарыстаць так званыя выпрабавальнікі пластоў, якія давалі магчымасць выклікаць прыток нафты яшчэ да таго, як у пласт трапляла гліна.

У жніўні 1964 года ў шчыліны № 8 на гэтай жа плошчы на глыбіню 2.000 метраў апусцілі выпрабавальнік пласта. За 1 гадзіну 15 мінут ён даў 17 тон высакаякаснай нафты. Пасля падключэння шчыліны да трубаправода яна пачала штодзённа даваць звыш 200 тон нафты.

Прамысловая нафта была знойдзена. Загаварылі аб адкрыцці ў краіне новага нафтавага раёна. Аб'ём бурэння павялічылі. І вось на Асташкавіцкай плошчы, размешчанай за 20 кіламетраў ад Рэчыцкай, з глыбіні 2.700 метраў ударыў нафтавы фантан магутнасцю каля 1.000 тон у суткі.

У строй уступалі ўсё новыя шчыліны прадукцыйнасцю сотні тон кожная. А разведчыкі ішлі далей. Прамысловыя прыкметы нафты ўдалося выявіць на Шацілаўскай плошчы на глыбіні 3.000 — 3.300 метраў. Нафта аказалася высокай якасці, лёгкая, зусім без шкодных прымесей серы і парафіну.

Былі пацверджаны перспектывы адкрыцця нафтавых месцанараджэнняў і ў двух іншых геалагічных раёнах рэспублікі — Аршанскай і Брэсцкай упадзінах. Плошча перспектыўных зямель ацэньвалася прыкладна ў 60 тысяч квадратных кіламетраў. У снежні 1966 года было адкрыта яшчэ адно месцанараджэнне нафты. З разведачнай шчыліны № 2, прабуранай на Цішкоўскай плошчы, ударыў з глыбіні 2.630 метраў фантан нафты з дэбітам каля ста тон у суткі.

Пакуль на адзін квадратны кіламетр плошчы рэспублікі прыпадае ўсяго 5 метраў разведачнага бурэння, тады як на Украіне — 18 метраў, у Татарыі, Куйбышаве і Башкірыі — па 60—70 метраў, у Азербайджане — 240 метраў.

У 1965 годзе рэспубліка дала каля 40 тысяч тон нафты. У 1966 годзе — каля 200 тысяч, і ёсць падставы лічыць, што к 1970 году здабыча беларускай нафты будзе даведзена да некалькіх мільёнаў тон. А к 1980 году можа перавысіць у паўтара раза цяперашні ўзровень здабычы нафты ў Баку.

**А. Перчык**

УВАГА НАСТАЎНІК І ВУЧНІ

# Школьны дарожны конкурс

**«Пазбягайма дарожных выпадкаў сярод дзяцей і школьнай моладзі»** — гэта лозунг новага школьнага конкурсу. Штопраўда, конкурс не новы, таму што праводзіўся ён у мінулым годзе. Мінулагодні конкурс паказаў, што школы, настаўнікі і самі вучні вельмі многа зрабілі ў галіне дарожнай прафілактыкі. Адбыліся многія сустрэчы школьнай моладзі з міліцыянерамі, вучні выконвалі насценгазеты, школьныя пляцы абазначалі дарожнымі знакамі, некаторыя кіраўніцтвы школ абсталёўвалі школы ў кабінеты са спецыяльнымі прыладамі да навукі аб правілах дарожнага руху. Асабліва на вёсках заўважалася вельмі карысны факт, што вучні выконвалі сваім бацькам і суседзям таблічкі з адрасамі да вазоў у згодных з правіламі размерах. Зрэшты, у такіх выпадках ініцыятывам няма канца.

Мэта конкурсу асталася нязмененай у параўнанні да мінулага года, але ўнесена істотныя змены ў рэгуляміне конкурсу. І так, **конкурс пачынаецца 1 студзеня 1968 г. і будзе працягвацца да чэрвеня г.г. Да 20 верасня** карысці арганізатары конкурсу прадбачваюць між павінны адбыцца павятовыя агляды конкурсу, а Ваяводская конкурсная камісія зробіць ацэнку атрыманых прац з паветаў **да 10.X.1968 г.**

Нанесена таксама пэўныя папраўкі ў пунктацыі. Напрыклад, згодна з прапановай прадстаўніка «Нівы» Камісія павысіла да 15 пунктаў (у мінулым 5) за «куточак аб дарожным руху» ў школе.

Узорам мінулага года, кожная школа атрымае рэгулямін разам з аркушам ацэнак заявы аб прыступленні да конкурсу. Апрача дыдактычна - выхаваўчых іншым такія ўзнагароды як: **бясплатны матацыклёвы курс для найлепшай групы з сярэдніх школ, груповая экскурсія, бясплатная пабыўка ў летнім або зімовым лагеры.** Апрача таго будзе шмат іншых цэнных узнагарод індывідуальных і калектыўных. Прадбачваецца таксама ўзнагароды індывідуальныя апекунам дружын ЗГП, настаўнікам, кіраўнікам і дырэктарам школ за найлепшыя вынікі школы ў конкурсе.

Шчыра заахвочваем усіх да конкурсу. (АК)



 

НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СПРАВЫ

# КЛАСІКІ МАРКСІЗМА І СУЧАСНАСЦЬ

На ўвагу заслугоўвае выступленне вядомага гісторыка Генрыка Яблонскага прысвечанае дыскусіі аб становішчы марксізма ў нацыянальных справах надрукаванае на старонках часопіса «Z pola walki» (Нр 3 ад 1966 г.) Яблонскі звяртае ўвагу на факт, што адны і тыя ж самыя акрэсленні паняцця «нацыя» ў розных гістарычных перыядах выконваюць розную ролю, раз маглі быць прагрэсіўнымі, іншым разам — рэакцыйнымі. Таму неабходным з'яўляецца дастасоўванне паняцця «нацыя» і інтэрпрэтацыі нацыянальных праблем да патрэб часу. Яблонскі затрымліваецца над двума цікавымі прыкладамі інтэрпрэтацыі нацыянальных праблем свайго часу класікамі марксізма і «правамоцнасцю» гэтых інтэрпрэтацый у нашыя часы. Першы прыклад датычыць нацыянальных меншасцей Францыі. У часы французскай рэвалюцыі, калі ўсю краіну аб'ядноўвала новая нацыянальнатворчая ідэя, ідэя роўнасці незалежна ад веравызнання і этнічнага паходжання — нацыянальныя меншасці Францыі адыгрывалі рэакцыйную ролю, стаючыся тормазамі ў развіцці гэтай ідэі. Таму Энгельс пісаў тады: **«Гэтыя рэшткі бязлітасна гісторыяй растоптанага народа, гэтыя астаткі людаў выступаюць за кожным разам як фанатычныя абаронцы контррэвалюцыі і астануцца такімі аж да абсалютнага свайго знішчэння, так як само іх існаванне з'яўляецца ўжо пратэстам супраць вялікай гістарычнай рэвалюцыі».**

На думку Яблонскага словы гэтыя не спраўдзіліся. Этнічныя меншасці ў Францыі, як і ў іншых краінах, існуюць надалей, не адыгрываюць аніякай рэакцыйнай ролі і не праяўляюць сэпаратысцкіх у сэнсе палітычным імкненняў.

**«Альзатчык,** — піша Яблонскі, — **не з'яўляецца немцам, як не з'яўляецца Італьянцам карсыканін, хаця адзін і другі патрабуе прызнання правоў для сваёй мовы і сваёй культуры (нямецкай і італьянскай — П), але гэта не перашкаджае ім быць французскімі патрыётамі».**

Другі прыклад датычыць славянскіх народаў, былой Аўстра-Венгерскай манархіі. У свой час адыгрывалі яны антырэвалюцыйную ролю, і таму Энгельс пісаў, што бліжэйшая сусветная вайна змяце з паверхні зямлі не толькі рэакцыйныя класы і пануючыя рады, але і гэтыя рэакцыйныя народы.

**«Няма што,** — гаворыць Яблонскі, — **распісвацца аб тым, што народы гэтыя змаглі стварыць свае дзяржавы і стварыць сваю — зусім не рэакцыйную культуру».**

Далей Генрык Яблонскі пераходзіць да справы патрэбы рэвізіі некаторых поглядаў **«вялікіх найбольш намі шанаваных людзей».** Варта прывесці даўжэйшую цытату яго выступлення:

**«Не разыходзіцца нам зусім, як гэтага хацелі б часам студэнты III года, каб давесці, ці даўнія філосафы былі разумнымі, ці не. На гэта генеральны адказ дала гісторыя. Разыходзіцца тым часам пра тое, ці іх паасобныя думкі гістарычна спраўдзіліся, ці не. Дазвольце, што аб сур'ёзных справах скажу крыху жартам. Яе не католік, магу аднак умоўна прыняць праўдзівасць догмы аб беспамылковасці папы. Але католікі гавораць, што ад папы дрэнна паінфармаванага можна адклікнуцца да папы добра паінфармаванага. Значыць і беспамылковы папа можа выказаць неўласцівую думку, нягледзячы на сваю беспамылковасць. Беспамылковы мае быць у сваім метадзе, але калі інфармацыі будуць фальшывымі і вывад будзе фальшывы. Так часта бывае і ў нашай працы. Прыклад: Энгельс і Мадзяры, цэлая мадзярска-славянская, чэшская, паўднёваславянская праблема. Проста Энгельс добра не ведаў сітуацыі ў гэтай частцы Еўропы, меў мала інфармацый, а прытым некаторыя інфармацыі памылковыя. Мы тым часам часта патрабуем ад тых, хто выказваў калісьці думкі ў тых ці іншых справах не толькі, каб усе яны былі праўдзівымі, але каб мелі яны яшчэ талент варажбітаў».** (п)

# НАВУКІ СТАРЫЯ І НОВЫЯ

(Працяг са стар. 1)

казу гэтага прывяду такі прыклад: калі агульнапольскія чытальніцкія конкурсы з каштоўнымі ўзнагародамі даюць лік 10-ці тысяч удзельнікаў (і гэта лічыцца вялікім поспехам), то конкурс «Беларуская кніжка ў руках масавага чытача» са сваімі 1100 удзельнікамі несумненна будзе поспехам куды большым.

Я гаварыла вышэй аб непачытнасці паэзіі, але ж Якуб Колас і Янка Купала (апошні толькі паэт) здабылі ў чытача прызнанне найбольшае — першае і другое месцы. І тут пацвярджаецца тое, аб чым гаварыла. Абодва выдаваліся многа разоў у многіх і розных фарматах, прытым слава, якая іх акружае ад дзесяцігоддзяў, зрабіла сваё. Колас стаіць на першым месцы, зрэшты, па-першае, за сваю трылогію (у прозе) і па-другое, за свае эпічныя паэмы: «Новая Зямля», «Сымон Музыка». Янка Купала перамагае, як заўсёды, цеплынёй сваёй творчасці, чалавечнасцю і сардэчнасцю яе. Зборнікі яго вершаў найчасцей уваходзілі на купоны як пазіцыі з паэзіі. Але і тут таксама больш любяць чытачы чытаць яго паэмы, а не вершы.

Сказаць і пахваліцца хочацца «ўласным нарыбкам». Дзядзькам Леваном і Алесем Барскім. Першы быў папулярны за свой творчы жыццёвы скептыцызм у вядомых фельетонах, другі за «прыгожае апісанне кахання».

Конкурс змабілізаваў паветы: Бельскі і Гайнаўскі. З іншых прышло мала купонаў. Зноў чаму? З санлівым характарам беларускай дзейнасці ў тых паветах увогуле спалучылася тут і арганізацыйнае занядбанне. Адвечная памылка: памагаецца там, дзе дапамогі трэба менш, дзе ідзе добра. Асабіста адчуваю і веру, што заснуўшую Сакольшчыну можна пабудзіць, хоць бы ерэхонскай трубой, але можна.

Канчаючы рабочае падсумаванне конкурсу хачу прыпомніць, што навукі з яго выплываюць многім: тым, хто кнігі купляе, тым, хто іх выдае і тым, хто іх распаўсюджвае. Конкурс дае матэрыялы для акрэслення характару і кірунку развіцця беларускага чытальніцтва ў Польшчы.

**Вера Леўчук**

# Што новага ў Міхася Забэйды-Суміцкага?

**Міхась Забэйда-Суміцкі** час ад часу паказваецца нашым чытачам у «Ніве». Прыпамінаецца сваёй дзейнасцю, сваім цікавым жыццём адданым песні.

Новы год з далёкай Прагі чэшскай прыносіць нам новыя весткі аб беларускім **спеваку Міхасю Забэйдзе-Суміцкім.** Яны радасныя і нам беларусам у Польшчы. Ганарымся слаўным земляком. Аб ім многа і часта гаварылася ў мінулым годзе і ў БССР, дзе ў свой час бываў з канцэртамі.

Газета «Літаратура і мастацтва» змясціла вялікі артыкул аб Забэйдзе-Суміцкім і інфармацыю аб выданні грампласцінкі. Мінскае радыё два разы пасылала ў свет перадачу аб спеваку і яго песнях. Штотыднёвік Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР на радыёвяшчанні і тэлебачанню змясціў артыкул **«Для песень народжаны» з прыгожым здымкам артыста. «Дзень паэзіі» за 1967 год змясціў верш С. Панізніка прысвечаны М. Забэйдзе-Суміцкаму.**

**А Ў ПРАЗЕ?**

**І тут поспехі. Чэшскі музычны фонд** (Česky hudebni fond) **прызнаў Міхасю Забэйдзе-Суміцкаму прэмію за сістэматычнае і каштоўнае выкананне песень сучасных чэшскіх кампазітараў у сезоне 1966/67.**

Украінскі драматычны гурток у Празе паставіў у тэатры «Май» оперу «Наталка-Палтаўка». Галоўную ролю Пятра спяваў М. Забэйда-Суміцкі. Выступленне мела вялікі поспех. На заканчэнне **праф. Прыходзька** (рэжысёр) пры адкрытай сцэне сказаў: «Дзякую нашаму брату беларусу Міхасю Забэйдзе-Суміцкаму, які стварыў ролю Пятра так, як мы прызвычаіліся яе сабе ўяўляць».

Наша рэдакцыя жадае М. Забэйдзе-Суміцкаму поспехаў і ў Новым годзе. (вл)

## Вясковыя партрэты



**Дзядзька з Крушынянаў.**
Фота: Ул. Паўлючук

якісьці нясмелы, голас яго быў танклявы, і тое, як гаварыў, зусім не вязалася з тым, пра што гаварыў. Нібы ўвяшчаў Валодзьку за падраныя нагавіцы, нібы сарамаціў маці...

Паступова бацька смялеў, узбуджаны яго голас пераходзіў на віск.

— Адным словам, хлопцы, хопіць мітынгаваць! — закрычаў ён ужо якімсьці адчайным голасам. — Трэба ўсім нам ісці ў Вераб'і і правучыць іх!

— Раз і назаўсёды! — падхапіў нехта.

— Дамо-о гадам!

— Айда, усім кагалам!

— Пайшлі-і! — аж уздрыгнуў лес ад узбуджаных галасоў — з галін зляцелі пласты снегу, узнялі малочныя віхуры.

3.

Набліжаліся да Вераб'ёўскіх хутароў. Такую лавіну людзей на замерзлым снезе, мабыць, было чуваць за тры кіламетры і перапалоханыя людзі даўно пагасілі лямпы, пазаганялі ў сені сабак.

Нас, хлапчукоў, мужчыны паслалі на разведку. Шчаслівыя, што нам далі такое даручэнне, адзін перад другім, прыкідваючыся, што нам зусім не страшна, беглі мы ад хутара да хутара, прыстаўлялі вушы да шурпатых сцен і адчувалі, як у кожнай хаце прытаілася ў страху жыццё.

Ага, збаяліся, прадажнікі!..

Паліцыі не было нідзе.

Знайшоўшы каго трэба, мужчыны выбілі штрэйкбрэхеру вокны, папілавалі воз, сані.

Уваліўшыся на падворак да другога, мы спаткалі растрапаную жанчыну. Яна выбегла з хаты босая, паляцела нам насустрач, упала на калені, узмалілася:

— Лю-удзі, рабіце што сабе хочаце тут, на падворку, толькі не біце вокан! У мяне дзе-ці хворыя, куды іх зімой дзе-ену! Ко-оклюшам злеглі...

На мужыкоў нібы хто лінуў халоднай вады. Усе пасталі ў нерашучасці.

— Наце мяне, рабіце са мной, што хочаце, толькі пакіньце шыбы! — пакіньце толькі шыбы! — поўзала яна жоўтымі каленямі па снезе, расхіляла на грудзях кофту.

— Вар'ятка, каму ты патрэбна, цьфу! — адскочыў, нібы ашпараны, дзядзька, да чыёга валёнка яна дакранулася.

— Уставай і бяжы дахаты, не стой на снезе, пяткі памарозіш!

Жанчына ўсхапілася на ногі, лёгка, як дзяўчынка, паляцела дамоў.

Гэтаму шляхцічу ўжо не так ахвотна пілавалі сані.

Нейкі хлопец вывеў з хлява клячу, пачаў лупцаваць яе кіем, прыгаворваць:

— На, на, атрымоўвай, гэта табе за твайго вераб'я, каб болей не вазіла яго, на!

З натоўпу выскачыў дзядзька Салвесь, сперазаў хлапца кіем:

— Шы-то робіш, нягоднік! І это, і это, і это — конь вінаваты, га?!

— Дай яму, дурню яловаму, Салвесь, дай добра! — абурыліся іншыя мужчыны.

Дзядзька завёў каня ў хлеў, паклаў яму сена:

— Еш, коська, не бойся, еш...

І хлапец, які здзекваўся з каня, і босая жанчына абяззброілі зусім некалькі соцень яшчэ нядаўна так раззлаваных дзядзькоў. Ужо без вялікай ахвоты пайшлі яны да астатніх штрэйкбрэхераў. Там няўпэўнена, не да канца рэзалі збрую, секлі хамуты, а вокнаў не білі зусім. Шкадавалі ўжо і саней, не чапалі іх.

Аднак хапіла і гэтага.

4.

Назаўтра вазіць лес не выехаў з Вераб'ёў ніхто.

Баючыся, каб не сапсавалася санная дарога, бо тады за калёсную вывазку давядзецца мужыкам плаціць удвая, Кацман здаўся.

Людзі дружна выехалі ў лес ладаваць на раткі гонкія ліпнікаўскія сосны. У ап'яненні ад перамогі не заўважылі нават арыштаў.

Баставаць мелі права толькі тыя рабочыя, якія былі ў прафсаюзе. Мужыкі, вядома, да прафсаюза не належалі, і забастоўка іхняя лічылася незаконнай. Знайшоўся даносчык, выдаў бацьку. Казалі, Госцікаў Ёзік з Белявіч расказаў пра ўсё паліцыі. За арганізацыю забастоўкі і бунтарскае выступленне перад сялянамі ў лесе суддзя падпісаў ордэр на яго арышт.

Ноччу прыехалі да нас з Ялоўкі паліцыянты, разбудзілі бацьку, зрабілі вобыск і павезлі яго ў ваўкавыскую турму.

Канец зімы і вясну гаспадарыла мама. Незнаёмыя людзі прывозілі нам на хутар дровы, малацілі збожжа, збіралі бацьку грошы на адваката. Нават заставаліся ў нас на ноч, каб мы не баяліся ля лесу спаць.

Той час, калі гэтак выразна адчуў я людскую спагадлівасць і салідарнасць, доўга ўспамінаў нібы якоесьці вялікае і шчаслівае свята.

Жывучы без бацькі, мы пакрысе запускалі гаспадарку і цешылі сябе:

— Нічо-ога, прыйдзе з турмы тата, парадак навядзе!

Тым часам вярнуўся ён з Ваўкавыска і доўга не хацеў ні за што брацца. Паранейшаму каровы і свінні заплывалі гноем, у гумне перамяшалася салома з сенам, падворак — завалены ламаччам, але бацька не ішоў наводзіць парадак. Пагаліўшыся і памыўшыся, падправіўшы перад люстэркам шчотачку рыжаватых вусікаў, ён хадзіў па хаце і спяваў астрожныя песні. А то перад заваражанымі суседзямі з захапленнем успамінаў бунты вязняў у турме. Нібы з папрокам, а на самай справе з гонарам памаладзелая маці хвалілася перад суседкай, цёткай Настусяй:

— Ты паўзірайся толькі на яго — ён не супраць, каб трапіць туды яшчэ раз!

Л. ВАРАБЕЙ Л. РАМАНЮК

# МІР НАМ ПАТРЭБЕН

## ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VI КЛ.

### ВАРШАВА АДБУДАВАНАЯ

З Усходу шляхамі йшла
наша армія.
Варшаву нішчыў шваб
бамбёжкай і пажарамі.

Стаялі дамы год дзвесце
і болей на'т...
І вось у друзе прадмесця
І Новы Свят.

Хай слава не згасне руін
фабрык, мастоў і гмахаў.
Вось ён, наш першы пачын:
Траса з Усходу на Захад.
Знось бульдозер, вал цэглы крывавай!
Учора — план. Сёння — ўжо
выкананне.

Мы адбудуем Варшаву.
Варшава новаю стане.

— Круль Сігізмунд, як жывяце вы?
Што бачна з вашай калоны?
— Бачу жыццё і забудовы
і адчуваю гонар.

— Круль Сігізмунд, а далей
што бачыце перад сабою?
— Слёнска-Дамброўскі пастаўлен
мост — і калі? — зімой.

— Круль Сігізмунд, а вас там
паставілі моцна, дарэчы?
— Стаю тут сабе, і баста,
стагоддзі адмервае меч мой.

Ды што там круль... Прыходзіць
глянуць на горад, на гуты
той, хто заводы ўзводзіць —
сам будаўнік магутны.

Плечы яго — дуга небакраю,
крок — перуноў пераклікі,
чырвань зор па-над ім палае
і варшаўскага зарыва блікі.

З кельняй, молатам і сякерай
проста праз горад ідзе ён,
крок яго кожны — эра,
новы век перад ім палымнее.

«Хопіць слёз! — ён заклікае. —
Толькі наперад! — дэвіз наш.
Вось вам Варшава другая,
вось ён, век сацыялізма».

**Уладзіслаў Бранеўскі**

1. Як ішло аднаўленне горада?
2. У якіх строфах і як аўтар характарызуе стваральнікаў-будаўнікоў Варшавы?
3. Напішыце паводле ўласных уражанняў сачыненне на тэму: «Сучасная Варшава».

Праца не ганьбіць чалавека, а корміць, і поіць, і вучыць.

Праца нікога не крыўдзіць.

Пчолка маленькая, а мёду колькі наносіць!

Работу словам не заменіш.

# ДОЯЦЬ КОБРЫ

Ужо ў старажытнасці вуж быў сімвалам мудрасці. А ў сувязі з тым, што лекары найраней вылучыліся сярод жрацоў ведаў, іх эмблемай стаўся вуж. Больш-менш на пераломе старой і новай эры неадлучнай часткай эмблемы стаўся кубак: відаць лячнічыя ўласцівасці яду былі вядомымі даўным даўно.

У сучасным запатрабаванне на лякарствы, якія вырабляюцца з яду вужоў, узрастае з кожным днём. У СССР апрацавана спецыяльны план спажывання яду ў гэтай пяцігодцы. У гэтым годзе, напрыклад, фармацэўтныя фабрыкі заказалі 9 кілаграмаў яду, а на 1970 — аж 22,5 кілаграмы. Гэтыя **22,5 кг яду каштуе 50 мільёнаў рублёў.** Пакуль што ў СССР выpабляецца 1,5 кг., апошняе прывозіцца з заграніцы.

**На здымку: На ўскраінах горада Фрунзе знаходзіцца заалагічны камбінат, іменна тут рэгулярна «доіцца» рознага тыпу вужы. «Удойка» кобраў найцяжэйшая.** (а-ка)



МГР. М. ГАЙДУК

# ГУТАРКІ ПА РОДНАЙ ГІСТОРЫІ

*(Заканчэнне тэмы «Гаспадарка Беларусі». Пачатак у папярэднім нумары).*

Сяляне ненавідзелі сваіх прыгнятальнікаў і змагаліся супраць іх. Частка сялян верыла ў справядлівасць цара, пісала і падавала яму прашэнні і скаргі на паноў. Адказу або не было, або царскі ўрад насылаў на прасіўшых вайсковых карнікаў, і тыя жорстка распраўляліся са скарбнікамі.

Тысячы сялян уцякала са сваіх сёл у іншыя адлеглыя мясцовасці Рускай дзяржавы, падаваліся ў гарады, хаваліся па лясах. Мацнела і шырылася барацьба супроць паноў і царскага ўрада. Сяляне не выходзілі на паншчыну, падпальвалі маёнткі, забівалі ненавісных паноў і арандатараў, узнімалі паўстанні.

Пад уплывам паўстанчаскага руху ў 1846 годзе ў Галіцыі хваляванні сялян ахапілі ўсю Гродзеншчыну. Сяляне не выходзілі на паншчыну, не плацілі падаткаў, дамагаліся свабоды. За іх прыкладам пайшлі сяляне Міншчыны, Полаччыны, Магілёўшчыны і іншых частак Беларусі. Супроць паўстаўшых царскі ўрад накіраваў войскі. Карнікі каралі паўстаўшых пабоямі, турмой, высялялі ў Сібір.

Барацьба беларускіх сялян не магла быць пераможнай, бо разгортвалася яна стыхійна і неарганізавана. Аднак яна ўлівалася ў агульную плынь барацьбы супроць феадалізму і царскага самадзяржаўя і набліжала іх аслабленне, а затым і ўпадак.

Гаспадарчае развіццё беларускіх зямель у першых дзесяцігоддзях пасля далучэння да Расіі было вельмі шпаркім. Узрастала колькасць сельскагаспадарчых прадуктаў, развівалася рамяство, вытворчасць у паншчынных і гарадскіх мануфактурах, бойка развіваўся гандаль, разрасталіся гарады.

Нашэсце французскіх захопнікаў на Рускую дзяржаву ў 1812 годзе, супроць якіх на Беларусі пашыралася партызанская барацьба, разбурыла і знішчыла гаспадарку на беларускіх землях. Пасля разгрому напалеонскіх армій узмоцніўся на Беларусі феадальны прыгнёт і ён загамаваў хуткую адбудову гарадоў і вёсак і далейшае гаспадарчае развіццё беларускіх зямель.

Аднак, хаця і паволі, але няспынна развівалася прамысловая вытворчасць у гарадах і маёнтках. Паншчынныя прадпрыемствы, якія абапіраліся на бясплатнай працы прыгонных сялян, узмацняліся і пашыраліся. Паўставалі і разбудоўваліся прамысловыя прадпрыемствы ў гарадах і мястэчках, дзе ў большасці працавалі вольнанаёмныя рабочыя. Найхутчэй развіваліся суконная, броварная, шкляная, гарбарная і папяровая прамысловасці. У гарадах шмат было дробных варштатаў, у якіх працавалі гаспадар са сваёй сям'ёй і 1—2 наёмных рабочых. Царскі ўрад не спрыяў развіццю прамысловасці на Беларусі, імкнуўся ён да таго, каб беларускія землі былі адсталай правінцыяй царскай імперыі. У знешнім гандлі з беларускіх зямель вывозіліся пераважна сельскагаспадарчыя прадукты, а прывозіліся прамысловыя вырабы.

*ПЫТАННІ І ЗАДАННІ.*

*1) Як аднёсся царскі ўрад да магнатаў шляхты пасля далучэння беларускіх зямель з Расійскай дзяржавай?*

*2) Раскажыце аб палажэнні сялян і іх барацьбе ў Беларусі ў першай палавіне XIX стагоддзя.*

*3) Як развівалася прамысловасць і рамяство на беларускіх землях у той час?*

# Электрастанцыі на лістках

У СССР пабудавана сонечныя батэрыі, якія нагадваюць лісткі тоўстай паперы. Дакладней прыглянуўшыся мы ўбачым, што такі лісток складаецца з дзесяткаў прастакутнікаў — крэмневых фотаэлектрычных трансфарматараў. Яны вельмі моцныя, але нават калі б сапсавалася частка лістка, батарэя будзе дзейнічаць, таму што паасобныя элементы спалучана не паралельна, а ў рад.

Фотаэлектрычныя батарэі новага тыпу можна прымяняць на паверхнасцях з рознай крывізнай. Можна таксама сказаць, што дасца з іх будаваць электрастанцыі... завінутыя ў рулон, як папера.

Сонечныя батарэі служаць да падмацоўвання акумулятараў маякоў, свецячых буяў, а таксама да забеспячэння ў электрычную энергію помпаў артэзіянскіх калодзежаў на пустынях.

(а-ка)

АЛЯКСАНДР НАСІБАЎ

# ТАЙНА КАНАРЫСА

Дзверы, вельмі высокія і масіўныя, з бронзавым шчытом уверсе, на якім перапляліся метровыя літары А і Г — вензель фюрэра, бясшумна паддаліся пад націскам рукі афіцэра СС. Не зварухнуліся бамбізы вартавыя ля ўваходу. У чорных мундзірах і сталёвых шлёмах, у белых пальчатках, яны застылі як статуі, уціснуўшы прыклады вінтовак у падлогу паміж расстаўленымі нагамі.

Афіцэр саступіў убок, прапускаючы ў кабінет адмірала Фрыдрыха Вільгельма Канарыса, кіраўніка ўсемагутнай ваеннай разведкі — абвера, якую дасведчаныя людзі ў Германіі лічылі дзяржавай у дзяржаве, ён быў адным з тых нешматлікіх у краіне асоб, каго пабойваўся сам Гімлер.

Ад свайго бацькі, дартмундскага прамыслоўца, у чыіх жылах нямецкая кроў была змешана з грэцкай, ён атрымаў у спадчыну жорсткасць і спрытнасць. Частка крыві элінаў выявілася на знешнасці адмірала — невысокага росту, дзябёлы, рухавы, з вяліканосым, румяным тварам, ён мала быў падобным на немца, але быў бы на месцы за стойкай кафейні недзе ў Салоніках ці Пірэі.

Яму скончылася пяцьдзесят адзін год. Ён рана пасівеў, і сваю шавялюру, аб якой дужа клапаціўся, называў не інакш, як самым каштоўным фамільным срэбрам роду Канарысаў, які паходзіў быццам ад саноўнікаў старажытнай Грэцыі.

Цяпер, увайшоўшы ў кабінет Гітлера, Канарыс сказаў:

— Мой фюрэр, прашу ўдзяліць некалькі мінут.

— Што-небудзь сур'ёзнае?

— Думаю, так.

Канарыс наблізіўся. На стол лягла пачка фатаграфій. Першая паказвала чалавека ў гумовым касцюме ў абцяжку і з дыхальным апаратам на грудзях. Шырока расставіўшы ногі ў літых каўчуковых ластах, плывец стаяў на беразе мора і глядзеў у аб'ектыў. На наступным фота двое плыўцоў у такіх жа касцюмах сядзелі верхам на тарпедзе, цалкам апушчанай у ваду.

Яшчэ дзесятак здымкаў быў зроблены пад вадой: плывец у гумовым касцюме і з дыхальным апаратам буксіруе сігарападобны зарад: той жа чалавек прымацоўвае зарад да кіля карабля; двое лёгкіх вадалазаў возяцца з разабранай кіраванай тарпедай — яе кармавая частка ляжыць на дне, зараднае аддзяленне падвешана да карабельнага вінта.

Гітлер нахіліўся над картачкамі.

— Нашы? — спытаў ён.

— Італьянцы, мой фюрэр! — адказаў з гордасцю Канарыс. — Тайна, якую яны захоўваюць больш за ўсё.

— Тарпеды... — Гітлер падняў галаву, у роздуме пажаваў губамі, прыжмурыўся. — Бачу, вам яны вельмі падабаюцца.

— Кіраваныя тарпеды, якія разам з людзьмі апускаюцца пад ваду і нясуцца да мэты, нябачныя і нячутныя. — Канарыс палажыў рукі на стол, падаўся наперад. — Яны лёгка прасочваюцца ў базы праціўніка і топяць ваенныя караблі, танкеры... Узрывы скалынаюць паветра і ваду, па моры разліваецца гарэўшая нафта, пажары ахопліваюць дзесяткі іншых суднаў. Усюды паніка, жах, смерць!..

Канарыс змоўк. Ён быў упэўнены: вось зараз у вачах Гітлера загарацца агеньчыкі раз'юшанасці, рука націсне кнопку званка. Убегшаму ад'ютанту будзе загадана выклікаць камандуючага ваенна - марскім флотам Рэдара. І тады на галаву няўдачнага адмірала, які правароніў важную ваенную навінку італьянцаў, абрушыцца страшны гнеў фюрэра.

Што ж, адмірал Канарыс не меў бы нічога супраць — Эрыха Рэдара, які надта ж хутка зрабіў бліскучую кар'еру ў ОКМ, ён не любіў.

Доўга цягнулася мінута, на працягу якой Гітлер разглядаў фатаграфіі. Канарыс з б'ючымся сэрцам стаяў каля стала, не зводзячы вачэй з фюрэра.

— Глупства! — раптам сказаў Гітлер. — Глупства, Канарыс!

І, сабраўшы картачкі, веерам адшвырнуў іх на край стала.

Канарыс маўчаў. Ён быў ашаломлены.

— Не пазнаю вас, — працягваў Гітлер. — Няўжо вы думаеце, што гэтыя забаўкі памогуць нам пакарыць Польшчу, а затым і Расію?

— Мой фюрэр, я думаў...

— Тады, мо, Францыю?

— І не Францыю, — прамармытаў Канарыс. — Я не яе меў на ўвазе.

— Каго ж?

— Англію, мой фюрэр. Англія — гэта выспы...

Гітлер рассеяна патлядзеў на разведчыка:

— Выспы? Вядома! Але яны будуць узяты паветраным дэсантам, або дэсантам з мора, або задушаны блакадай — я не вырашыў яшчэ, як. Аднак пры

